ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 27 (2585)

9 ліпеня 1998 г.

Выдаецца з 1955 г.

Цана 2000 рублёў.

ЛЕГЕНДА І БЫЛЬ

## «ЧОРНАЯ ДАМА» З НЯСВІЖСКАГА ЗАМКА

Чатыры з паловаю стагоддзі жыве паэтычнае паданне пра Чорную даму з Нясвіжскага замка. Нават у нашы дні жыхары Нясвіжа вераць у прывід. Кажуць, што роўна ў 15 хвілін на першую гадзіну ночы таямнічая жаночая постаць абходзіць пакоі і наваколлі замка. Яна стогне, плача па сваім згубленым жыцці і шчырым каханні, а пад раніцу вяртаецца ў сховішча — вялізныя цёмныя сутарэнні са шматлікімі хадамі, дзе ў саркафагах спяць вечным сном продкі Радзівілаў.

Нясвіжскі замак — месца гістарычнае, і гераіня гэтага падання — рэальная асоба. Вось што расказваюць гісторыкі і краязнаўцы пра лёс гэтай жанчыны і пра той час, у які яна жыла...

...У сярэдзіне XVI стагоддзя ў Вялікім Княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім жыў усемагутны ўладар — слаўны і багаты Мікалай Радзівіл па мянушцы Чорны. Здольны дыпламат, адукаваны дзяржаўны дзеяч, ён быў самай уплывовай асобай пасля караля. У 1547 годзе Чорны дамогся для сябе і сваёй радні княжацкага тытула. Але на гэтым не супакоіўся. Ён марыў выйсці з-пад улады польскай кароны і стаць незалежным каралём. Каб здзейсніць задуманае, Мікалай Радзівіл прыняў пратэстанцтва і запрасіў у Нясвіж шматлікіх святароў-пратэстантаў. У гэты час у замку пачала дзейнічаць друкарня, упершыню сталі выходзіць кніжкі на беларускай мове.

Яшчэ больш павялічыўся ўплыў Мікалая Чорнага, калі ён парадніўся з будучым польскім каралём Жыгімонтам Аўгустам праз сваю стрыечную сястру Барбару Радзівіл.

Прыгажуня сястра жыла ў Вільні. Яна рана страціла бацькоў, неўзабаве памёр і муж. Замкі маладой удавы і карале-

(Заканчэнне на 4-й стар.).

1998-мы — ГОД АДАМА МІЦКЕВІЧА



**Хутар Завоссе цяперашняга Баранавіцкага раёна знаходзіцца за сорак кіламетраў ад Навагрудка. 24 снежня 1798 года тут нарадзіўся наш вялікі зямляк Адам Міцкевіч. Аднолькава сваім геніяльнага паэта лічаць беларусы, палякі, літоўцы. Ад хутара ўжо практычна нічога не засталося. Войны і час зрабілі сваю справу. У 30-я гады на месцы дома, дзе нарадзіўся Адам Міцкевіч, быў устаноўлены памятны знак.**

**У пачатку дзевяностых гадоў кіраўнікі Беларусі і Польшчы дамовіліся ўзнавіць хутар у тым выглядзе, у якім ён быў да нараджэння паэта. Гэтую нялёгкую ношу ўзваліла на свае плечы наша дзяржава. Міністэрства культуры Беларусі вось ужо шэсць гадоў прыкладае намаганні да адраджэння унікальнага комплексу. Работы завяршаюцца. Узведзены дом, гаспадарчыя пабудовы, памяшканне для работнікаў будучага музея, заканчваецца асфальтаванне пад'езду да Завосся ад шашы Баранавічы — Навагрудак.**

**НА ЗДЫМКУ: пабудовы адроджанага хутара.**

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

КАСТУСЬ САМАХВАЛ, СУСЕД ЯКУБА КОЛАСА

**Асоба Канстанціна — Кастуся Самахвала — цікавая для беларускага грамадства з усіх бакоў, з якога ні вазьмі. Інжынер-будаўнік, ён праз усё жыццё трымаўся і трымаецца роднай мовы, роднай культуры, нашай гісторыі. З малых гадоў рос і гадаваўся разам з дзецьмі Якуба Коласа, Язэпа Лёсіка. Добра ведаў і саміх Міцкевічаў — Канстанціна Міхайлавіча і Марыю Дзмітрыеўну. Размаўляў з жонкаю Ядвігіна Ш. і яго дачкою Вандай Лявіцкай. Яго выхавацелькай у дзіцячым садзіку — дзяціцы, тады іх называлі ачагамі — была Уладзіслава Францаўна. Ведаў ён і Янку Купалу. Але пра гэта размова асобая. Сённяшні ж расказ пра тое, як жылося-былося Кастусю Самахвалу на вайне, як яму ваявала-ся-змагалася.**



## БЕЛАРУС НА ВАЙНЕ, або У КОЖНАГА СВАЯ ВАЙНА

**У. СОДАЛЬ:** Канстанцін Аляксандравіч! Калісьці хтосьці з вялікіх аналітыкаў сказаў: пра вайну ніхто не ведае ўсяго. Пра вайну ведае народ, народы. І ўсё ж, пры ўсёй агульнасці, у кожнага была свая вайна. У вас свая, у мяне свая. Хай сабе я быў і не вельмі яшчэ вялікі, але пра вайну ўсё ж тое-сёе ведаю. Паміж іншым, пакаленне людзей, да якога належу я, гэта будзе апошняе пакаленне, якое хоць што ведае пра вайну. Пасля нас настане пара забыцця апошняй вайны. То як вам запомніліся першыя дні вайны? Пра што думалася, пра што перажывалася ў тыя дні?

**К. САМАХВАЛ:** Вайна нас прыспела ў Магілёве. Сюды нас

(Заканчэнне на 5-й стар.).

ЯК СЁННЯ МАЕЦЦА Ў «НОВЫМ ЖЫЦЦІ»?

## ТАВАРЫСТВА МАЦНЕЕ – ЛЮДЗЯМ ЛЕПШ

Такі дзіцячы сад у любога дарослага выклікае захапленне. Вакол двухпавярховага будынка прывабнай архітэктуры — прасторны двор. У ім — качалкі, лесвічкі, альтанкі, пясочніцы... Усё, што патрэбна дзецям, каб прыемна бавіць час.

А ўсярэдзіне — вочы разбягаюцца. Пакоі для гульняў. Спальні. Сталовая. Сад, поўны кветак, розных вазонаў, кусцікаў. Усё гэта, а таксама фігуркі звяроў, птушак, карціны зроблены і намаляваны з густам, ярка пафарбаваныя.

Пабудзеш у садзіку — нібы ў казку трапіў. Казку на яве. А дзеці ж у гэтай казцы жывуць, праводзяць цэлыя дні.

Мы прайшліся па цэнтральных вуліцах. Надзвычай прыемнае ўражанне засталося. Плошчу акружаюць сучасныя будынкі рознага прызначэння: шматпавярховыя жылыя, школа, ашчадны банк, кафэ, Дом культуры, адміністрацыйны корпус і іншыя. Ад цэнтра разбягаюцца вуліцы, забудаваныя індывідуальнымі дамамі, што

(Заканчэнне фотарэпартажу на 3-й стар.).



ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

АФІЦЫЙНА

## ЕЎРАПЕЙСКІЯ КРАІНЫ ЗАЦІКАЎЛЕНЫ ЖЫЦЬ АДНОЙ СЯМ'ЁЙ

**Пасля візіту Прэзідэнта Беларусі ў Швейцарыю БелТА распаўсюдзіла наступную інфармацыю.**

Дэлегацыя Беларусі на чале з Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам завяршыла рабочы візіт у Швейцарыю, дзе прымала ўдзел у Міжнародным эканамічным форуме ў Кран-Мантане.

"Усход і Захад — сумесная стратэгія бяспекі і эканамічнага ўзаемадзеяння" — такая тэма даклада, з якім на пленарным пасяджэнні форуму выступіў кіраўнік беларускай дзяржавы. У ходзе выступлення Аляксандр Лукашэнка зрабіў шэраг важных палітычных заяў. У прыватнасці, ён нагадаў аб тым, што Беларусь першая вывела са сваёй тэрыторыі ядзерную зброю, а таксама знішчыла звычайных узбраенняў больш, чым Англія, Францыя і Германія разам узятыя. Разам з тым еўрапейскія арганізацыі не выканалі ніводнага свайго абавязацельства, якія яны давалі пры ўмове вываду ядзернай зброі з тэрыторыі нашай рэспублікі.

Аляксандр Лукашэнка яшчэ раз заявіў аб непрымальнасці Беларуссю палітыкі пашырэння НАТО на Усход. "Існаванне ваенна-палітычнага блока НАТО было вытлумачальна, калі існаваў ваенна-палітычны блок краін Варшаўскага Дагавора, — сказаў ён. — Але мы самі распусцілі гэты блок, а НАТО працягвае расшырацца і ўмацоўваць свае пазіцыі". Прэзідэнт заклікаў да трансфармацыі НАТО з ваенна-палітычнай арганізацыі ў палітыка-абаронную.

Кіраўнік Беларусі выказаў цвёрдую ўпэўненасць, што ўсе еўрапейскія дзяржавы зацікаўлены жыць разам дружнай сям'ёй. Без Беларусі, якая знаходзіцца ў цэнтры Еўропы, паўнацэннай Еўропы не можа быць. Паводле яго слоў, еўрапейцы "самі павінны будаваць свой агульнаеўрапейскі дом" і "самі вызначаць правілы, па якіх мы павінны жыць".

Закрануўшы праблему ад'езду замежных дыпламатаў з Мінска, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што зрабілі яны гэта пад уплывам амерыканскага пасла. Пры гэтым ён акцэнтаваў увагу на тым факце, што выехалі ўсяго шэсць паслоў, а засталося дваццаць. Гэта з'яўляецца сведчаннем неадназначнага ўспрымання дыпламатамі працэсаў, што адбываюцца ў Беларусі.

У ходзе выступлення Аляксандр Лукашэнка звярнуў увагу на той факт, што ў Беларусі захоўваецца стабільная сацыяльная раўнавага. Таму нават у гэтым плане Еўропа павінна быць зацікаўлена ў супрацоўніцтве з нашай краінай. "Праз Беларусь, — сказаў ён, — праходзяць транзітныя шляхі з Захаду на Усход, і парадак і стабільнасць у краіне забяспечваюць замежным бізнесменам поўную бяспеку". Што датычыць эканамічнага супрацоўніцтва, то Прэзідэнт падверг крытыцы парадкі, якія пануюць на еўрапейскім рынку. "Беларусь, — адзначыў ён, — абвінавачваюць у неправедзенні рыначных рэформаў. Разам з тым, нас не пускаюць на еўрапейскі рынак, у той час як заходнія дзяржавы імкнуцца прадаваць свае тавары на нашым". Ён звярнуўся да заходніх партнёраў з заклікам канкурыраваць на рынку.

Выступленне кіраўніка беларускай дзяржавы суправаджалася грубымі выпадамі з боку журналіста тэлекампаніі "Франс-3", які вёў дыскусіі. Раз-пораз ён спрабаваў перапыніць прамову Аляксандра Лукашэнкі і пераключыць увагу на праблему ад'езду паслоў заходніх краін з Мінска. Прэзідэнт Беларусі заклікаў апанентаў да цывілізаванай размовы, што, аднак, не было пачута. У яго адрас было выказана нямала папрокаў, якія датычаць парушэння правоў чалавека ў нашай рэспубліцы і нежадання кіраўніка дзяржавы праводзіць дэмакратычныя пераўтварэнні. Пасля прыбыцця са Швейцарыі Аляксандр Лукашэнка расцаніў абстаноўку, што панавала на форуме ў час яго выступлення, як загадзя даклад на спланаваную правакацыю.

Знаходзячыся ў Кран-Мантане, Аляксандр Лукашэнка даў інтэрв'ю праграме навін Швейцарскага тэлебачання і інфармацыйнай праграме тэлекампаніі "Еўраньюс". Адказваючы на пытанні журналістаў, ён яшчэ раз пацвердзіў гатоўнасць Беларусі да дыялога як у кожным канкрэтным выпадку, так і па шырокаму колу пытанняў. Аднак, падкрэсліў Прэзідэнт, абавязковай умовай такога дыялога павінна быць жаданне другога боку ўдзельнічаць у ім.

БЕЛАРУСЬ І СВЕТ

## У СКЛАДЗЕ ФІНАНСАВАГА КАМІТЭТА СУСВЕТНАЙ МЫТНАЙ АРГАНІЗАЦЫІ

На сесіі Савета Сусветнай мытнай арганізацыі, што адбылася ў Марока, Рэспубліка Беларусь абрана ў склад яе фінансавага камітэта.

Нашу краіну на ёй прадстаўляў кіраўнік Дзяржаўнага мытнага камітэта Валянцін Макарэвіч. Беларусь — член гэтай арганізацыі з 1993 года.

З ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАНЦЫЛЯРЫІ

## «НЕ» — ПАРНАГРАФІІ

Беларусь аб'явіла сябе праваправадужальніцай міжнародных дагавораў па пытаннях барацьбы з распаўсюджваннем парнаграфічных выданняў. Указ наконт гэтага падпісаў Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка.

У дакуменце гаворыцца, што праваперaeмнасць Рэспублікі Беларусь распаўсюджваецца на Міжнародную канвенцыю аб спыненні абарачэння парнаграфічных выданняў і гандлю імі ад 12 верасня 1923 года, а таксама на Пагадненне аб барацьбе з распаўсюджваннем парнаграфічных выданняў ад 4 мая 1910 года з усімі пазней унесенымі ў іх папраўкамі. Для былога СССР першы дагавор уступіў у сілу у 1935 годзе, другі — у 1949-м.

ВОСТРАЎ СМЕРЦІ СТАЎ МЕМАРЫЯЛАМ




Каля вёскі Мар'янава Лёзненскага раёна ўстаноўлены мемарыяльны знак у памяць вязняў лагера смерці. У маі-чэрвені 1944 года фашысты сагналі на востраў, абкружаны балотамі, дзяцей, асуджаючы іх на верную смерць. Тут загінула звыш 4 тысяч малалетніх вязняў, а тыя, што засталіся ў жывых, былі вызвалены Чырвонай Арміяй.

Каля ста былых вязняў канцлагера прыбылі цяпер на цырымонію адкрыцця мемарыяла. Сюды прыйшлі работнікі саўгасаў "Выдрэя" і "Крынкі", прыбылі прадстаўнікі ўлады.

НА ЗДЫМКУ: кветкі да мемарыяльнага знака.

Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.

СТАТЫСТЫКА

## ПАЗБАЎЛЕНЫЯ СВАБОДЫ

Паводле даных старшыні Вярхоўнага суда Беларусі Валянціна Сукалы, у месцах пазбаўлення волі знаходзіцца 60 000 грамадзян. А гэта значыць, што на кожныя 100 000 насельніцтва прыпадае 600 зняволеных.

Па яго словах, судовыя органы ўсё больш схіляюцца да змякчэння крымінальнага заканадаўства. Зразумела, у тых выпадках, дзе гэта магчыма. Так, на апошнім пленуме Вярхоўнага суда разглядалася пытанне аб змякчэнні меры пакарання за бяспечныя злачынствы. За пяць месяцаў гэтага года было перагледжана 2 000 крымінальных спраў, у выніку чаго 300 чалавек вызвалены з-пад варты.

АПОШНЯЯ ДАНІНА



Больш за 56 гадоў была невядомай магіла 14 нямецкіх салдат, што загінулі ў сярэдзіне жніўня 1941 года каля вёскі Парзвічы Жлобінскага раёна. Там жа на ўскраіне вёскі яны і былі пахаваны. Сярод салдат быў і немецкі капелан Іахім Айзенберг.

Атрымаўшы пахаронку, удава Іахіма Айзенберга Размары прыняла манаскі сан і да гэтага часу даглядала цяжкіх анкалагічных хворых у шпіталі горада Ратэнбург. Гэты шпіталь ужо 6 гадоў падтрымлівае дружалюбныя сувязі з клінікай Навукова-даследчага клінічнага інстытута радыяцыйнай медыцыны і эндакрыналогіі ў Мінску.

У адну з паездак па абмену вопытам да загадчыка аддзялення прамянёвай дыягностыкі Вадзіма Петухова падышла 83-гадовая Размары Айзенберг і, перадаўшы яму невялікі крыж, папрасіла ўстанавіць яго на месцы пахавання яе мужа (якое было падрабязна апісана ў пахаронцы) і яго баявых таварышаў. Просьбу ўдавы нямецкага салдата ў Беларусі выканалі.

НА ЗДЫМКУ: загадчык аддзялення прамянёвай дыягностыкі клінікі Навукова-даследчага клінічнага інстытута радыяцыйнай медыцыны і эндакрыналогіі Вадзім ПЕТУХОЎ усталёўвае крыж.

Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ, БелТА.

БЕЛАРУСЫ І ЛІТОЎЦЫ

## СЕМІНАР У РЫМДЗЮНАХ

Міжнародны "круглы стол" "Беларусы ў Літве, літоўцы ў Беларусі: праблемы адукацыі, выхавання і культуры" прайшоў у вёсцы Рымдзюны Астравецкага раёна. Сярод яго арганізатараў — Міністэрствы адукацыі абедзвюх краін, Дзяржкамітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Беларусі і адпаведны Дэпартамент пры ўрадзе Літвы, Гродзенскі аблвыканком і Астравецкі райвыканком.

Астравеччына, і ў прыватнасці Рымдзюны, выбрана для правядзення сустрэчы не выпадкова. Тут дзейнічае літоўская школа, жыве нямала літоўцаў, а таксама блізкія і родныя тых беларусаў, што абралі месцам жыхарства суседнюю краіну. І, безумоўна, пытанні, якія абмяркоўваліся на пасяджэннях, датычыліся ўсіх: і ўдзельнікаў, і мясцовых "наглядальнікаў".

З «КРУГЛАГА СТАЛА»

## СЯЛЯНЕ — САМЫЯ БЕДНЫЯ

На працягу апошніх 6 гадоў узровень заработнай платы сельскіх працаўнікоў у дзяржавах Садружнасці самы нізкі з усіх галін эканомікі. Аб гэтым гаварылася ў Харкаве на "круглым стале", у якім прынялі ўдзел дэлегацыі прафсаюзаў Беларусі, Расіі, Украіны і Малдовы. На ім таксама адзначалася, што 70 працэнтаў прадпрыемстваў аграпрама ў парушэнне заканадаўства расплачваюцца са сваімі работнікамі прадукцыяй і з вялікім спазненнем.

З НАГОДЫ

## ПАЛОМНІКІ ЕДУЦЬ У ЯБЛАЧЫН

Каб пакланіцца старажытным сценам Свята-Ануфрыеўскага манастыра ў польскім паселішчы Яблачын, адправіліся ў суседнюю краіну сотні веруючых з памежных раёнаў Брэсцкай вобласці. Праваслаўны манастыр у гэтыя дні адзначае сваё 500-годдзе. Сярод паломнікаў — Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт.

ПАДАРУНАК МУЗЕЮ



11 літаграфій Марка Шагала падарыў віцебскаму музею мастака вядомы калекцыянер з Швейцарыі Гюнтэр Комацкі. І гэта не першы яго падарунак абласному цэнтру.

Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.

ДА 2015 ГОДА

## ПЛАНЫ НАФТАХІМІКАЎ

Шэраг буйнамаштабных праектаў прадугледжаны распрацаванай Праграмай развіцця прамысловага комплексу канцэрна "Белнафтахім" да 2015 года. У іх пераліку — будаўніцтва комплексаў глыбокай перапрацоўкі нафты ў вытворчым аб'яднанні "Нафтан" і адкрытым акцыянерным таварыстве "Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод", стварэнне этыленавай і поліэтыленавай вытворчасцей у аб'яднанні "Палімір", сернай кіслаты — на Гомельскім хімічным заводзе, новага цэха ў гродзенскім аб'яднанні "Азот".

Рэалізацыя гэтых і іншых праектаў дасць магчымасць, паводле прагнозаў нафтахімікаў, павялічыць да 2015 года аб'ёмы першаснай перапрацоўкі нафтавай сыравіны на 57 працэнтаў, выпуск бензіну і дызельнага паліва адпаведна ў 2,4 і 1,7 раза, мінеральных угнаенняў — на 27 працэнтаў, поліэтылену — у 2,5 раза, валокнаў і ніцей хімічных — на 37 працэнтаў, шын розных відаў — на 23 працэнты.

МАЛЕНЬКІЯ РАДАСЦІ

## БУДУЕМ БОЛЬШ

Паводле даных Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, за пяць месяцаў гэтага года прадпрыемствамі і арганізацыямі ўсіх формаў уласнасці на будаўніцтва жылых дамоў было асвоена 7 730 мільярдаў рублёў інвестыцый, што склала 26 працэнтаў ад іх агульнага аб'ёму.

У параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года аб'ём інвестыцый у жыллёвае будаўніцтва павялічыўся на 28 працэнтаў. На будаўніцтве жылых дамоў у сельскай мясцовасці асвоена 1 079 мільярдаў рублёў інвестыцый, што складае 14 працэнтаў ад аб'ёму інвестыцый на жыллёвае будаўніцтва.

У студзені — маі ў рэспубліцы было здадзена ў эксплуатацыю 714 тысяч квадратных метраў жылля (за гэты ж перыяд мінулага года — 491 тысяча квадратных метраў). Доля жылля, пабудаванага за дзяржаўны кошт, склала 13 працэнтаў ад агульнай колькасці.








# ТАВАРЫСТВА МАЦНЕЕ — ЛЮДЗЯМ ЛЕПШ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**



патанаюць у зеляніне садоў і прысад.

Так добраўпарадкаваны не гарадок, а вёска Аношкі. Зрэшты, ёй зусім слушна можна надаваць статус гарадскога пасёлка. Ва ўсіх дамах — цэнтральнае ацяпленне, водаправод, газ, каналізацыя, усе гарадскія выгоды. Але яны добра спалучаюцца з сялянскім побытам. Каля дамоў на пятнаццаці сотках растуць памідоры, агуркі, цыбуля, іншая агародніна. І садок пад бокам. І хляўчук для жыўнасці.

У пасёлку шмат зеляніны. Вуліцы заасфальтаваныя. Пракладзены тратуары.

Прыемнае ўражанне ўзмацніў сваім расказам кіраўнік гаспадаркі М. Салянік. Па крэдыту ў растэрміноўку людзі пабудавалі каля 110 індывідуальных дамоў. Большасць ужо разлічыліся. 62 сям'і жывуць у шматпавярховых дамах.

Амаль усё гэта зроблена за грамадскія сродкі. Адкуль яны ўзяліся, калі многія беларускія калгасы ледзь зводзяць канцы з канцамі, а цэлыя вёскі, калі не зніклі, то апусцелі?

Калгас "Новае жыццё" Нясвіжскага раёна я ведаю трыццаць шэсць гадоў. Часта бываў тут па сваіх журналісцкіх справах. Так што развіццё гаспадаркі прайшло на маіх вачах. Даўно і добра знаёмы са старшынёй праўлення Міхаілам Салянікам. Вось ужо добрых трыццаць гадоў ён кіруе гаспадаркай. Міхаіл Васільевіч аказаўся тым чалавекам, які здолеў павесці за сабой сваіх землякоў. Асноўныя яго якасці як кіраўніка — уменне знайсці рэзервы ў гаспадарцы, вызначыць эфектыўныя накірункі ў развіцці прыярытэтных галін. Але галоўнае — ладзіць з людзьмі ды клапаціцца пра іх.

Слабенькі калгас паступова выйшаў у перадавыя не толькі ў раёне і вобласці. Аднак гэта не задавальняла няўрымслівага старшыню. Ведаючы кожнага чалавека, кожны кавалачак зямлі, усе фермы, аналізуючы іх магчымасці, Міхаіл Васільевіч бачыў, што яны выкарыстоўваюцца далёка не поўнасцю. Спрабаваў рэалізаваць свае задумы, але з гэтага нічога не атрымлівалася. Калі загаварыў з першым сакратаром райкома партыі, атрымаў катэгарычную адмову. Нават бульбу не дазволілі расфасоўваць у калгасе і прадаваць яе, адборную, чыстую, самім у Нясвіжы. Начальства камандавала: тое рабі, а пра гэта і не думай, нешта можаш будаваць, а што сам захацеў — не дазволім, вось столькі плаці калгаснікам — не больш і не менш і г. д. Так запіхвала сістэма любую ініцыятыву знізу ў вызначаныя сацыялізмам рамкі.

Але настапі іншыя часы. Ініцыятыву М. Саляніка падтрымалі спецыялісты гаспадаркі, калгаснікі. Калгас быў пераўтвораны ў акцыянернае таварыства. Зямлю і маёмасць падзялілі на долі — у адпаведнасці са статутам таварыства. Статутны фонд склаў пяць мільярдаў сто мільёнаў рублёў, гэта прыкладна 250 трыльёнаў цяперашніх. 51 тысячу акцый падзялілі паміж акцыянерамі (былымі калгаснікамі) коштам 10 тысяч кожная — у адпаведнасці з іх укладам у грамадскую гаспадарку на працягу ўсёй іх працоўнай дзейнасці.

Рэарганізацыя запатрабавала змен у гаспадаранні. Удасканалілі арэндную форму аплаты працы, увялі поўны гаспадарчы разлік, на яго перавялі ўсе вытворчыя падраздзяленні. Заробак людзей паставілі ў залежнасць ад канчатковага выніку працы. Усё гэта прывяло да ўмацавання дысцыпліны, да большай арганізаванасці, росту ініцыятыўнасці. Адсюль і вынікі — павышэнне ўраджайнасці, прадукцыйнасці жывёлы, даходу.

— Карацей кажучы, — гаворыць Міхаіл Васільевіч, — робім усё магчымае, каб нашы людзі жылі лепш. Удасканальваем формы гаспадарання, сацыяльную абароненасць нашых людзей.

У таварыстве арганізавалі перапрацоўку сваёй прадукцыі — у мясным, малочным цэху. Перапрацоўваецца бульба. Ёсць бульбасховішча на 1 000 тон. Гатовыя прадукты самі рэалізуюць, маюць дагаворы з дзяржаўнымі магазінамі. Клопат пра сельскія падвор'і праяўляецца ў тым, што іх гаспадарам памагаюць садзіць бульбу, нарыхтоўваць корм для жывёлы, рамантаваць жыллё. Не выпадкова ў вёсках нямала моладзі. У асноўным для яе закладваецца яшчэ чатырнаццаць дамоў.

Мы пабылі ў іншых вёсках, на палях. Бачылі цудоўныя палеткі збожжавых. Сёлета збяруць не менш як 50 цэнтнераў зерня з гектара, па 300 цэнтнераў бульбы, якую вырошчваюць па галандскай тэхналогіі. Нарыхтоўваюцца кармы на зіму. Адным словам, у "Новым жыцці" жыццё ідзе па-новаму.

Але не забываюць у таварыстве і традыцыі. Выгадным аказалася развядзенне коней. Іх цяпер утрымліваецца 200. Яны не лішнія і ў грамадскай гаспадарцы, калі гаручае такое дарагое, і ў гаспадарках акцыянераў. Ды і прадаюць коней па высокай цане.

Таварыства "Новае жыццё" вядомае не толькі ў Беларусі. У яго заглядваюць і замежныя госці, суайчыннікі. Неяк прыехалі амерыканцы са штата Мінесота. Шчырая была сустрэча. Гаспадары прапанавалі назваць гэтым імем адну з вуліц свайго гарадка. Госці, вярнуўшыся ў Амерыку, зрабілі прыгожую шыльду на англійскай мове, прыслалі яе ў Аношкі. Цяпер яна красуецца на адной з цэнтральных вуліц.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: М. САЛЯНІК — старшыня акцыянернага таварыства "Новае жыццё"; дзіцячы сад; у гонар сяброў з амерыканскага штата; новая вуліца; закладка сіласу; былы камбайнер А. ГАРУН і яго жонка Зінаіда, цяпер пенсіянеры; трактарыст С. АКУЛІК.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**







# «ЧОРНАЯ ДАМА» З НЯСВІЖСКАГА ЗАМКА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

віча стаялі побач. Каралевічу прыйшлася даспадобы прыгажуня ўдава. Яны пачалі сустракацца і моцна пакахалі адзін аднаго. Пра гэта даведаліся сваякі. Асабліва расхваляваўся Радзівіл — Мікалай Чорны. Ён быў вельмі неабыякавы да рэпутацыі сястры і вырашыў зрабіць усё, каб абараніць яе імя ад непажаданых плётак. Да таго ж яму надарыўся вялікі шанц стаць усемагутным валадаром усёй польскай Кароны. Перашкаджала толькі маці каралевіча — Бона Сфорца. Яна надта ж ненавідзела ўвесь род Радзівілаў.

Мікалай, калі даведаўся пра заляцанні каралевіча да сваёй сястры, адразу паехаў з Нясвіжа ў Вільню. З сабою ён прыхапіў роднага брата Барбары Мікалая Рудога. У рыцарскіх даспехах яны накіраваліся да каралевіча і прапанавалі: або ён ажэніцца з Барбарай, або больш не сустрэнецца з ёю. Каралевіч, які добра ведаў сваё няпэўнае становішча пры двары, адносіны маці да Радзівілаў, сказаў братам, што ён больш не будзе сустракацца з іхняю сястрою. Радзівілы зрабілі выгляд, што пакідаюць Вільню, але засталіся ў замку сястры, каб падпільнаваць каралевіча, калі той не стрымае сваё слова і прыедзе да Барбары на спатканне. Жыгімонт Аўгуст на другую ноч быў злоўлены ў спальні сястры. Цяпер браты катэгарычна запатрабавалі ад Жыгімонта ажаніцца з Барбарай, бо ён не стрымаў слова. Каралевіч згадзіўся, але папрасіў, што шлюб возьме тады, калі стане каралём.

А чакаць заставалася нядоўга: стары кароль, яго бацька, дажываў апошнія дні.

Неўзабаве Жыгімонт Стары памёр. Каралевіча тэрмінова выклікалі з Вільні ў Кракаў. Тым часам Бона Сфорца актыўна пачала шукаць каралевічу нявесту... Шлюб павінен быў умацаваць трон і павялічыць магутнасць Рэчы Паспалітай у Еўропе. Ударам перуна сярод яснага неба была для яе вестка, што ў сына, які стаў цяпер каралём, валадаром магутнай дзяржавы, ёсць жонка з роду Радзівілаў. Бона Сфорца робіць усё, каб Сойм не каранаваў яе нявестку. Не драмалі і не спалі ў шапку і Радзівілы. Мікалай Чорны едзе ў Рым да папы, каб заручыцца яго падтрымкаю. Сойм усё ж каранаваў Барбару. Каралева-маці ў знак пратэсту пакінула Кракаў і паехала на радзіму — у Італію, забраўшы з сабою ўсю сваю світу, усіх прыхільнікаў, але патаемна пакінула агентаў з заданнем атруціць маладую каралеву. З гістарычных крыніц да нас дайшло прозвішча аптэкара Монці — забойцы каралевы. Гэта ён прыгатаваў атруту, якая паступова звяла каралеву ў магілу. Праз шэсць месяцаў яе не стала. Труну з целам Барбары павезлі ў Вільню і пахавалі ў Кафедральным саборы на плошчы Гедыміна.

Пра вялікае каханне і вялікае гора Жыгімонта Аўгуста напісана шмат твораў. У аснове іх адна і тая ж легенда ў розных варыянтах і інтэрпрэтацыях.

Вось адна з іх.

Кароль пасля смерці каралевы так убіваўся, што вырашыў з дапамогай варажбітак і знахароў выклікаць з таго свету душу жонкі. За гэтую справу ўзяліся Твардоўскі і Мнішак — гістарычныя асобы. У змрочнай зале ўсё было зроблена так, каб пры дапамозе люстраў, на адным з якіх была намалявана постаць Барбары ў белым адзенні, разыграць сцэну сустрэчы караля і душы яго каханай. Караля пасадзілі ў крэсла і хацелі прывязаць рукі да падлакотнікаў, каб ён незнарок не дакрануўся да прывіду. Жыгімонт даў слова, што будзе сядзець нерухома і толькі спытае ў каралевы, як яму далей жыць. Але, калі з'явілася здань, ён ад хвалявання забыўся пра дадзенае слова, ускочыў з крэсла, кінуўся да прывіду са словамі: "Каханая мая!" І хацеў яе абняць. Пачуўся выбух, пайшоў трупны пах — і цяпер душа Барбары не можа знайсці дарогу ў магілу, ёй наканавана вечна блукаць па зямлі. Вось з таго часу яна і ходзіць сярод людзей, а пасля смерці караля пасялілася ў Нясвіжскім замку. І заўсёды апоўначы выходзіць з сутарэнняў у чорнай вопратцы ў знак жальбы па страчаным каханні.

У замку некалі лічылі, што прывід Барбары заўсёды прыходзіць і папярэджвае яго жыхароў, калі ім пагражае нейкая небяспека.

У сярэдзіне XVIII стагоддзя Чорная дама пачала выконваць новыя абавязкі — сачыць за паводзінамі маладых прыгожых дзяўчат і жанчын.

У прывід Чорнай дамы верылі нават немцы, якія двойчы акупіравалі Нясвіж. Калі яны ў цемры парку бачылі што-небудзь чорнае, дык з крыкам: "Шварцэ фрау!" стралялі ў тым напрамку і беглі хавацца.

...Злавесным становіцца апоўначы жытло Радзівілаў. З розных куткоў выходзяць прывіды, з падзямелля даносяцца стогны. Мабыць, гэта пакутуе Чорная дама, якую ў жыцці напаткала вялікае, але нешчаслівае каханне.

"Барбара Радзівіл... Яе гісторыя цікавая і трагічная..." — так пачынае свой варыянт падання пра легендарную каралеву І. Масляніцына ў артыкуле "Марысін парк". Усе падзеі, якія апісвае даследчыца, адбываюцца ў Нясвіжскім парку, хаця на самай справе гэтае каханне нарадзілася і расквітнела ў Вільні.

Вось як расказваецца пра першае знаёмства і спатканне будучых закаханых: "Сад Радзівілаў, дзе адбылося іх першае спатканне, калі каралевіч, уражаны прыгажосцю і незвычайным розумам Барбары, выпрасіў у яе на памяць рамонак, затым спатканне ў маленькім пакоі ў вежы Нясвіжскага палаца — у тую ноч яна чытала сцэны з містэрый і камедый, якія пісала, іх таемнае вянчанне ў маленькай нясвіжскай капліцы."

Адзначае аўтар і той вэрхал, што падняўся пры двары, калі чуткі дайшлі да Боны Сфорцы, каралевы-маці. "Прыгожая, разумная, знатнага роду, але ці ўсё гэта важна для жонкі караля? Калі яна не мае каранаваных бацькоў, дык хаця б была полькай. Пусціць ліцвінку на прастол, ці не азначае гэта: узняць вышэй за палякаў неадукаваных ліцвінаў".

Якой жа была на самай справе Барбара Радзівіл? Нарадзілася Барбара ў снежні 1522 года. Яе бацька Юрый І Радзівіл быў малодшым сынам Мікалая Старога і родным братам нясвіжскага ўладара Яна па мянушцы Барадаты. Неаднойчы ён перамагаў у шматлікіх бітвах пад Масквою, крыжакаў, калі быў вялікім літоўскім гетманам. Маці Барбары паходзіла з дынастыі Колаў. Пра дзяцінства і юнацтва Барбары вядома не вельмі многа. Яна, безумоўна, мела добрую адукацыю і выхаванне, хутка і прыгожа пісала.

У маі 1537 года ў пятнаццаць гадоў Барбару выдалі замуж за вядомага трокскага ваяводу Станіслава Гаштольда, прадстаўніка аднаго з самых магутных родаў у Літве. Жаніцьба была вынікам палітычных разлікаў і не магла быць шчаслівай. Да таго ж ваявода неўзабаве пасля шлюбу памёр. Прыгажуня Барбара засталася ўдавою. У 1543 годзе яна сустрэлася з Жыгімонтам Аўгустам і стала спачатку яго каханкай, а потым і жонкаю. Патаемнае вянчанне адбылося ў 1547 годзе, а ў 1548-м, адразу пасля смерці Жыгімонта Старога, яна была прадстаўлена як законная жонка маладога караля.

Грамадскасць Кароны (Польшчы) прыняла гэты саюз адмоўна. Сойм, сенатары, святары патрабавалі ад караля адрачэння ад жонкі-ліцвінкі і доўга не прызнавалі шлюб законным. Два гады ішла адчайная барацьба за каранацыю Барбары. І толькі ў 1550 годзе Сойм прызнаў каралеву Барбару. У сакавіку 1551 года з ёю памірылася і прызнала законнай жонкай сына старая каралева-маці Бона Сфорца. Прыехалі мірыцца і сёстры караля. Але каралева ўжо была смяротна хворай.

Яе лічылі самай прыгожай жанчынай дзвюх дзяржаў — Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Галоўнай каштоўнасцю Барбары была сапраўдная каралеўская высакароднасць, якая ўражвала не толькі землякоў, але і людзей замежных краін. Пасол Венецыі адзначыў яе алебастравую скуру, цудоўныя далікатныя рукі, дзівосныя вочы. Яе параўноўвалі з міфічнымі багінямі. Каханая Жыгімонта Аўгуста была яркай прадстаўніцай славянскага Рэнесансу. Тых, хто сустракаўся з Барбарай, захаплялі пяшчотнасць яе позірку, ласкавы голас, павольнасць і веліч рухаў. А пачалося каханне звычайна: Жыгімонт Аўгуст адчуваў цяжар ад сваёй хворай на эпілепсію жонкі Елізаветы. Ён пачаў шукаць сувязі па-за шлюбам. І сустрэўся нарэшце з Барбарай. У час знаёмства з ёю бацька Аўгуста дажываў апошнія дні, і вялікі князь Жыгімонт быў пераемнікам польскай Кароны, будучым уладаром вялізнай краіны.

Наследнік быў захоплены, зачараваны. Барбара яму вельмі падабалася. Сам Жыгімонт быў заўзятым паляўнічым, і Барбара часта суправаджала яго на паляванне. Абое любілі каштоўнасці і з захапленнем збіралі пярсцёнкі. Шмат часу праводзілі на банкетах, у кампаніі маладых бесклапотных людзей.

З цягам часу іх раман перарос у гарачае, вялізнае, пяшчотнае каханне, якое прынесла ім непамернае шчасце. Хутка яны зразумелі, што створаны Богам адзін для аднаго.

Ні каралевіч, ні Барбара спярша не думалі пра шлюб.

Ён разумеў, што сувязь з каханай, якая не належала ні да аднаго еўрапейскага двара і была ліцвінкаю, выкліча гнеў родзічаў і прыдворных. Жыгімонт успрымаў яе толькі як жанчыну, якой патрэбен ён сам, а не яго тытулы. Барбара ж, заўсёды пакорлівая, паслухмяная, нічога ад яго не патрабавала. Але яе браты, Мікалай Чорны і Мікалай Руды, успрымалі адносіны паміж закаханымі інакш, чым іх сястра-прыгажуня, і вымусілі Аўгуста ажаніцца з Барбарай. Павянчалі іх тайна. І ніхто з каралеўскага двара пра гэта не ведаў. Калі пра шлюб стала вядома ў шырокіх колах, паднялася бура. Яна была выклікана не толькі палітычнымі матывамі. Нельга было лічыць Барбару ніжэйшай па паходжанні, чым Бона Сфорца. Як вядома, каралеўскія шлюбы ў той час былі справай палітычнай. Саюз Жыгімонта і Барбары адбыўся без дазволу бацькоў і не супадаў з дыпламатычнымі планамі Жыгімонта Старога і каралевы Боны. Маці Аўгуста нават пагражала атруціць выбранніцу сына, і гэта было рэальна.

Калі вестка аб шлюбе дайшла да Кракава, які ў той час быў сталіцай Кароны, Стары Жыгімонт выклікаў да сябе сына. Гісторыя маўчыць аб падрабязнасцях размовы паміж бацькам і сынам, але пасля сустрэчы кароль больш не гневаўся на свайго наследніка. Затое маці залівалася слязамі, лічыла шлюб сына катастрофай. З каралеўскай канцылярыі пайшлі пісьмы да першых кіраўнікоў дзяржавы з заклікам не прызнаваць Барбару каралевай.

Падкрэслівалася, што шлюб адбыўся супраць волі бацькоў і ніхто не павінен даць на яго дазвол. Жыгімонта Старога прымусілі падпісаць ліст да трокскага кашталяна Гераніма Хадкевіча: "Даведаліся мы пра жаніцьбу каралевіча. Ён прынёс ганьбу ўсёй Кароне і Вялікаму княству Літоўскаму. Мы яе не дазвалялі і не дазваляем. А калі вас запросяць на гэтае вяселле, то каб туды не ездзілі. Таму што, калі б туды паехалі, то былі б і вы прычынаю гэтага ўніжэння маладога караля і нашай дзяржавы. Жадаю, каб былі ўважлівымі ў гэтых адносінах, стараліся б адвесці маладога караля ад гэтага шлюбу, які як і нам, так і яму вялікая ганьба, а дзяржаве немалое гора можа прынесці".

Першы сенатар Рэчы Паспалітай кракаўскі і вялікі каронны гетман Ян Тарноўскі, які пазней на злосць Боне прызнаў Барбару каралевай, на першым часе пісаў: "Хто гэта параіў маладому каралю — зрабіў зло, таму што гэтая жаніцьба прынізіла караля і ў дзяржаве, і за мяжой. Што да мяне, то вельмі перажываю і не магу супакоіцца". Гэтаксама адрэагавалі ўсе сенатары Кароны і большасць магнатаў Літвы. Але Жыгімонт Аўгуст быў нязломным. Ён не звяртаў увагі ні на просьбы, ні на пагрозы і рыхтаваўся да ўрачыстага прадстаўлення Барбары як сваёй законнай жонкі і польскай каралевы.

1 красавіка 1548 года памёр Жыгімонт Стары. Малады кароль адразу ж стаў уладаром вялізнай дзяржавы. Першай яго справай было прадстаўленне Барбары як жонкі і законнай каралевы. І ён гэта зрабіў у Віленскім замку, куды запрасіў увесь польскі Сойм.

Цяпер каралева-маці Бона Сфорца рабіла ўсё, каб перашкодзіць каранацыі Барбары, але Жыгімонт Аўгуст не звяртаў увагу на перашкоды і рыхтаваўся да ўрачыстага свята пасвячэння жонкі ў каралеву. Гэты цяжкі для караля час цягнуўся вельмі доўга. Не раз польскія магнаты станавіліся на калені і прасілі караля разлучыцца з Барбарай-ліцвінкай. Нарэшце кароль не вытрымаў і сказаў, што сваё апошняе слова скажа на наступны дзень. Але і назаўтра ён не адрокся ад кахання, сказаў: "Тое, што зрабілася, не пераробіш. Вы павінны прасіць не аб тым, каб пакінуў жонку, а каб збярог яе ад сваіх падданых. Ажаніўшыся, ад жонкі ўжо не адступлюся, пакуль Бог мяне на гэтым свеце беражэ. Наймілей для мяне ёсць вера і сумленне, яны мне даражэй, чым усё на свеце каралеўства". Насуперак сенату і святарам кароль нават усклікнуў, што лепш адрачэцца ад Кароны, чым ад жонкі.

Пасля гэтых падзей адносіны да Барбары рэзка змяніліся. Апазіцыя адступілася, а кароль акружыў Барбару сапраўднай каралеўскай раскошай. Жонка караля асляпляла прысутных прыгажосцю. Ад яе не адыходзіў ні на крок каралеўскі двор. Нарэшце ў нядзелю 7 снежня 1550 года кароль дамогся свайго — урачыстай каранацыі жонкі. Пад званы кракаўскіх касцёлаў, у акружэнні шляхты, магнатаў, князёў, святароў архібіскуп увянчаў галаву Барбары каронай. З таго часу яна стала паўнапраўнай каралевай. Перад ёю схілілі свае гордыя галовы першыя вяльможы каралеўства. У час каранацыі яна журботна прамовіла: "Да другой кароны мяне нябесны кароль кліча. Прасіце, каб гэты зямны скіпетр на пальму нябесную змяніў, а мілага майго мужа ў адчаі і горы за мяне прылашчыў." Сказала так, бо ведала, што была смяротна хворая. Яе дні былі ўжо злічаны. Змучаная цяжкімі пакутамі, акружаная знахарамі і лекарамі, яна апошнія дні праводзіла ў замку. Вельмі хацела перад смерцю хоць апошні раз дыхнуць паветрам родных лясоў. Жыгімонт Аўгуст сядзеў днямі і начамі ля яе ложка і няўцешна плакаў. Ён гатовы быў аддаць усё каралеўства за жыццё любімай жонкі.

8 мая 1551 года Барбара памерла. Каралева назаўсёды заплюшчыла свае цудоўныя вочы. Адчай і смяротны боль ахапілі караля. Ён падрыхтаваў ёй пышнае пахаванне. У развітальныя пакоі быў пастаўлены катафалк, на якім спачывала цела нябожчыцы. Кожны дзень тут спраўлялі літургію, маліліся, кожны дзень кароль праводзіў доўгія гадзіны ля труны каханай жонкі, якая перад смерцю папрасіла яго адвезці сваё цела на радзіму, у Літву, і сказала, што не хоча быць пахаванай у Кракаве, дзе яе так люта ненавідзелі. Радзівілам кароль сказаў: "Там, дзе жывой выказалі такую няўдзячнасць, не трэба пакідаць і мёртвую сярод такіх людзей".

25 мая 1551 года з Кракава ў Вільню накіравалася пахавальная працэсія. Гэта было незвычайнае жалобнае шэсце. Шматкіламетровая дарога вяла каралеву да месца вечнага спачыну. Змешчаную на спецыяльным катафалку труну з целам Барбары цягнулі коні чорнай масці. Калі яны трацілі сілы, замест іх упрагалі новых. За труною на кані ехаў апрануты ў жалобнае адзенне кароль. У кожным горадзе ці мястэчку ён злазіў з каня і ішоў за труною пешшу, загадваў спыняцца ў тых мясцінах, дзе раней быў шчаслівы з Барбарай. Ён нібы зноў хацеў пабыць тут разам з жывою каралеваю, убачыць яе ласкавую ўсмешку. Нарэшце картэж дабраўся да Вільні.

24 чэрвеня Жыгімонт і Радзівілы пахавалі польскую каралеву. Яе труну замуравалі ў Віленскім саборы. Кароль застаўся адзін. Душэўны боль не пакідаў яго да канца жыцця. Жалобу ён насіў кожны дзень. Яго мучыла, што каралева памерла так рана, так мала пацешылася сваім шчасцем. А праз 20 гадоў пасля яе смерці напісаў загад аб надмагільным помніку. У ім гаварылася, што астанкі Барбары павінны быць перанесены ў касцёл Святой Ганны, дзе прасіў пахаваць і сябе.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# ЕЖЫ ГЕДРОЙЦ З МІНСКА

У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі дэманстравалася выстава "Знакамітыя землякі. Ежы Гедройц: жыццё і дзейнасць".

Ежы Гедройц — палітык, публіцыст, заснавальнік і рэдактар парыжскага часопіса "Культура", які выходзіць ужо на працягу 51 года.

Надзвычай трапна сказаў літаратар Ігар Бабкоў: "...таямніца Ежы Гедройца (адна з ягоных таямніц) — у Менску, у гэтым прывідным горадзе, які пераўтварае ў прывід усіх нас, у якім, каб застацца, ты вымушаны няспынна ўяўляць, прыдумваць — краіну, традыцыю, мову, сэнс жыцця, сябе і астатніх. Так, як гэта рабіў Ежы Гедройц, стары мудры чалавек... з Менску".

Менавіта тут ён нарадзіўся 27 ліпеня 1906 года ў сям'і Ігната Гедройца і Францішкі Стажыцкай і жыў да 10-гадовага ўзросту. Затым была вучоба ў гімназіі ў Маскве, на юрыдычным і гістарычным факультэтах у Варшаўскім універсітэце, службовыя падарожжы ў Румынію, Італію, Англію...

На працягу ўсяго жыцця Ежы Гедройц займаецца культурна-асветнай і выдавецкай дзейнасцю. Зрэшты, калі грымнула другая сусветная, узяў у рукі зброю, змагаўся супраць нацыстаў, у прыватнасці, у складзе другога польскага корпуса. У 1946 годзе заснаваў Літаратурны інстытут у Рыме, у 1947 — часопіс "Культура". Па яго ініцыятыве выйшлі серыя выданнняў "Бібліятэка культуры", "Гістарычныя сшыткі", якія датычаць найноўшай гісторыі Польшчы цэнтральнаеўрапейскіх краін. Ён з'яўляецца ініцыятарам стварэння ў 1982 годзе Фонду дапамогі незалежнай польскай літаратуры і навукі. Шмат гадоў Ежы Гедройц марыў, каб і Беларусь таксама стала незалежнай дзяржавай.

Ежы Гедройц неаднойчы станавіўся лаўрэатам прэстыжных узнагарод, а ў 1997 годзе атрымаў ганаровае грамадзянства Літвы.

# БЕЛАРУС НА ВАЙНЕ, або У КОЖНАГА СВАЯ ВАЙНА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

напрыканцы траўня накіравалі на практыку. У Магілёве будаваўся авіяцыйны завод, а мы вучыліся на будаўнічым факультэце Беларускага політэхнічнага інстытута. З Магілёва доля закінула аж у Саратаў.

Як памятаю, у тыя першыя дні вайны думалася, што ўсё хутка пройдзе, мінецца. Аніякіх перамог ні з аднаго, ні з другога боку не будзе. Але гэтак думалася толькі ў першыя дні, у Магілёве. А па дарозе ў Саратаў, калі мы ўбачылі цэлыя платформы палонных немцаў з закасанымі рукавамі, а некаторых — у кароткіх штанах, чулі іх вясёлы настрой, дык я пачаў ужо думаць больш адпаведна таму, што адбывалася на справе. Але, прызнацца, страху не адчуваў і свой настрой перадаваў другім, хто думаў інакш.

Калі нас мабілізавалі, мы апынуліся ў г. Энгельсе, дзе фарміравалася паветрана-дэсантная брыгада. Пасля баявой падрыхтоўкі нашу брыгаду (3-ю ПДВ) накіравалі ў г. Дзмітраў пад Масквой.

**У. СОДАЛЬ:** На вайне не кожны дзень ваявалі, не кожны дзень страпялі... Былі і зацішшы. Пра што думалі ў такія хвіліны, гадзіны, дні, седзячы ў акопе?

**К. САМАХВАЛ:** Пра рознае. Найперш, каб выжыць, каб ацалець, каб хутчэй усё гэта скончылася пекла. Думалася пра сваіх, пра блізкіх: дзе яны? Што з імі?

**Кастусь Самахвал, як пераважная большасць беларусаў, з прыроды вельмі мірны чалавек. Ён і на вайне марыў пра мірнае жыццё. Вось, прыкладам, што ён пісаў у сваім лісце да свае жоначкі-франтавічкі яшчэ 13 лістапада 1943 года, калі да Перамогі было вельмі і вельмі далёка. Праўда, ужо ішло радаснае вызваленне акупіраваных абшараў нашае зямлі.**

**"Здравствуй, дорогая милая Лиля. Я еще не разу не думал о том, буду ли я жив, буду ли я калекой, но тем не менее, я всегда думаю о том, что при примечательной возможности, чем пораньше вступить в гражданский строй, то есть не оставаться в шинели ни одного лишнего месяца".**

**Вельмі мірны Кастусь Самахвал і на ўсіх сваіх франтавых здымках.**

**Ні на адным з іх мы не бачым яго са зброяй, пры зброі... Аніякай ваяўнічай позы... Толькі на адным 3 лістапада 1942 года невядомы фатограф засведчыў яго... з бiноклем. Мабыць, праз гэты бінокль Кастусь Самахвал выглядаў наш мірны дзень, нашу вольную Беларусь. А так скрозь, на ўсіх франтавых здымках, ён з лагоднай усмешкай, часам пры бярозках ды кветках...**

**У. СОДАЛЬ:** Канстанцін Аляксандравіч! Часта можна пачуць ад ветэранаў: на вайне мы не дзялілі сябе на беларусаў, украінцаў, рускіх, чачэнцаў... Усе жылі адным парывам, адным памкненнем: як мага хутчэй разбіць лютага ворага... Ці напраўду гэта ўсё так і было, што на фронце кожны выганяў з сябе ўсю сваю сутнасць, сваё "я" і пачуваў сябе толькі байцом?

**К. САМАХВАЛ:** Можа, як у бой ішлі, дык нiхто нi на кога не дзяліўся. Але, паўтаруся, як наступала зацішша, кожны думаў пра сваё, пра свой край, сваю зямлю, сваіх людзей, сваё жыццё. Прыгадаю, пад Масквой, як прыедзе кухня, збяромся і згадваем: "А ў нас так і так было, а ў нас тое і тое гатавалі..." Камандзіры пазнавалі нас, беларусаў. Мусіць, па акцэнту. Неяк прыхільныя былі да беларусаў. Як толькі загаворыш, слова якое



скажаш, адразу чуеш: "А... беларус!" І гэтым усё было сказана. Мне, прыкладам, усюды перад вачыма бацькі стаялі. Толькі вочы заплюшчу і бачу іх.

І сёння яшчэ многае ўспамінаецца пра тое, што адбывалася ў час вайны. Як можна забыць пра абарону Грознага! Ці пра тое, як вызвалялі гарады і вёскі, станіцы Паўночнага Каўказа. Вось станіца Крымская. Колькі там было ўсяго! А затым 2-гі Украінскі фронт: вызваленне Харкава, фарсіраванне Дняпра на поўдні ад Крамянчуга.

Калі наступалі на Украіне, дык неяк нам, беларусам, было як бы цяплей, бо, здавалася, мы вось-вось будзем у Беларусі. Але нас павярнулі на паўднёвы захад, у Бесарабію. Але і там для мяне знаходзілася нешта блізкае, як для беларуса: і сялянскія хаткі, і цёткі, якія нас сустракалі, частуючы другі раз кавалачкам вэнджанага сала ці нечым іншым, што напамінала нам наш родны край — Беларусь. Я ўжо быў у Маскве, калі Чырвоная Армія вызваляла мой родны Мінск.

Прызнацца, у душы было жаданне вызваляць сваю Беларусь, але... прасіць, каб туды накіравалі, не хапала сілы, ды і асяроддзе, у якім знаходзіўся на 2-ім Украінскім фронце, стрымлівала мяне і іншых ад гэтага.

На фронце была і мая адна-курсніца Ліля. Мы з ёй толькі, толькі што пабраліся. Яна таксама вучылася на будаўнічым факультэце. Абое мы патрапілі з Магілёва ў Саратаў. Але ў Саратаве нашы шляхі разышліся. Я патрапіў пад Маскву. Яна засталася ў Саратаве. Але калі вайна дакацілася да Саратава, мабілізавана на фронт была і мая жоначка... Яна там складала розныя праекты ўмацаванняў. Праз усю вайну яна ішла следам за мною...

Пра тое сведчыць і мой ліст, датаваны 13.XI.43.

"Здравствуй, дорогая милая Лиля!

Из твоих писем узнал, что ты следуешь почти по нашему пути. В некоторых случаях, как я понял, мы могли бы встретиться, но нам, видимо, не суждено с тобой встретиться до какого-то определенного времени, наменченного не тобою и не мною, а "счастливым случаем".

Оценить эту встречу очень трудно.

У меня, например, символом всей жизни, я не ошибусь, если скажу, — встреча с тобой!.."

Сустрэліся на пачатку 1944 года... Было гэта так...

Везлі раненых... На машынах, на падводах... Дык мая жоначка і пытаецца: "З якой дывізіі?" Назвалі. "А пра Самахвала ці чулі?" "Як не чулі? Ды тут ён недалёка, у акопах, на перадавой". Тут жа яна сказала пра гэта свайму камандзіру, і нам паспрыялі сустрэцца. Пасля гэтай сустрэчы нас абаіх паслалі ў Маскву вычыцца. Паспрыяў гэтаму наш камандзір Юрка Аўчыннікаў. У яго хтось быў з сваякоў у Маскве, ён напісаў ім, каб яны нас сустрэлі і прынялі. Тое пісьмо і цяпер у мяне ацалела. А сам ён неўзабаве пасля таго пісьма загіне.

...У Маскве я вучыўся ў Ваенным інстытуце замежных моў Чырвонай Арміі.

Гэта быў 1944 год. Якраз у гэтым годзе Масква адзначала 524-ю гадавіну з часу Грунвальда — грунвальдскай перамогі славянаў над тэўтонцамі, тэўтонскімі псамі-рыцарамі. З гэтай нагоды ў Калоннай Зале Дома Саюзаў адбылася ўрачыстая акадэмія. Я, як славянін і вайсковы славіст, таксама быў запрошаны на гэтую акадэмію. Прыйшоў. Усеўся. Сяджу. Аж бачу — у прэзідыуме Якуб Колас, наш народны паэт. А я ж яго ведаў з малых гадоў. Мы жылі колісь у адным двары. Я захваляваўся, сваім суседзям сказаў, кіраўніку свайму.

Як скончылася першая частка, я бегма да сцэны, да прэзідыума. Такая сустрэча. Такая нечаканка... Пацiснулі адзін аднаму рукі. Я быў рады сустрэчы. Але не менш рады гэтай сустрэчы быў і Якуб Колас. Я ж з ягонымі дзецьмі гадаваўся, з ягонымі сынамі рос. Адзін з іх, Юрка, загінуў на фронце. Спатканне са мною, мусіць, нагадала Канстанціну Міхайлавічу пра сына. Пэўна, яму зашчымела сэрца. Ён тут жа пісульку напісаў. Запрасіў у Клязьму. Клязьма гэтая пад Масквою. Там жыў брат Марыі Дзмітрыеўны. У яго і кватаравала часова сям'я Якуба Коласа. Я сказаў Канстанціну Міхайлавічу, што і Юрка Лёсік тут. Ён і Юрку запрасіў. І мы з Юркам паехалі ў Клязьму... Паехалі... Прыязджаем. Канстанцін Міхайлавіч якраз калоў дровы. Убачыўшы нас, кінуў калоць. Сякеру ў калоду. Кожнага з нас атуліў, як родных сыноў. Я ва ўсім вайсковым. Пры ордэне. Юрка ў цывільным. Ён быў энергетык. Дык Якуб Колас пытаецца ў мяне:

— Ну, як там на вайне?

А я кажу:

— На вайне як на вайне!

Канстанцін Міхайлавіч нічога не сказаў, толькі ўсміхнуўся. Пасля расказаў: у яго таксама нехта пытаўся пра акадэмію: "Як там, у акадэміі?" Ён таксама на гэта адказаў: "У акадэміі як у акадэміі".

А Юрка слухаў, слухаў, што Канстанцін Міхайлавіч усё ў мяне пра вайну распытвае, дый і кажа: "А чаму гэта вы ў мяне пра вайну нічога не пытаецеся? Я таксама маю ўзнагароды. Я Маскву, як студэнтам быў, бараніў..."

Ну, а Якуб Колас не пытаўся ў Юркі пра вайну, бо той жыў у Маскве. А што рабілася ў Маскве, Якуб Колас ведаў і сам.

**У. СОДАЛЬ:** На каго ж вучыўся Кастусь Самахвал у Маскве ў ваенным яшчэ 1944 годзе?

**К. САМАХВАЛ:** У згаданым інстытуце найперш рыхтавалі перакладчыкаў. Многія курсанты займаліся японскай мовай. Мне ж прапанавалі заняцца сербскай. Чаму сербскай?

Ішло вызваленне Еўропы. Патрэбны былі перакладчыкі і з славянскіх моў...

Вось мне, як беларусу, і прапанавалі сербскую мову... Пацікавіліся, ці ведаю польскую... Я адказаў, што з большага ведаю... Беларуская, руская, польская — усё гэта добра клалася на сербскую... Дык акцэнт мой, на якой бы я мове ні гаварыў, быў беларускі. Я быў адзін на сваім курсе, хто займаўся сербскай моваю. У мяне ацалеў з той пары і журнал-дзённік, дзе мой выкладчык фіксаваў мае заняткі па сербскай мове.

Веданне беларускай, рускай, польскай моў паспрыяла хуткаму засваенню сербскай. У сербскай, беларускай, рускай і польскай мовах шмат агульных слоў...

**У. СОДАЛЬ:** Ці прыдалося веданне сербскай мовы?

**К. САМАХВАЛ:** А як жа!.. Прыгадваецца 1945 год. Бялград. Агітмашына. Мы агітавалі: "Дружба! Ціта! Дружба! Сталін!" Пачалі размаўляць з сербамі. Адзін слухаў мяне, слухаў, а я размаўляў па-сербску, дый і кажа:

— А ты се беларус?

— Есам, кажу, беларус...

Пасля высветлілася, што мой суразмоўца з колішняй Заходняй Беларусі. Пачаў пра "Новую зямлю" мне расказваць... І яшчэ тое-сёе згадваць. І мы з сербскай перайшлі на беларускую...

Вось і такія здарэнні былі. І не адно...

**Кастусь Самахвал адзін з нямногіх сёння на Беларусі, хто прымаў удзел у гістарычным і незабыўным парадзе войск 4 чэрвеня 1945 года з нагоды Дня Перамогі. Мае шмат баявых узнагарод. Сярод іх — ордэны Чырвонай Зоркі, "За абарону", "Вялікай Айчыннай вайны", медалі "За абарону Каўказа", "За вызваленне Украіны", "За перамогу над Германіяй" і шмат іншых.**

**Кожная з гэтых узнагарод — згадка пра незабыўныя падзеі мінулай вайны, пра душэўныя і фізічныя выпрабаванні. Напамінак пра жыццё і смерць, між якімі даводзілася яму лавіраваць кожную хвіліну, кожны дзень. Кастусю Самахвалу неяк удалося знайсці свой акоп між імі і выжыць... Толькі двойчы быў паранены. Раз наступіў на міну, раз параніла асколкам. Першую рану пераходзіў на нагах, з другой з тыдзень паляжаў у шпіталі. Мае Кастусь Самахвал і яшчэ адну для яго дарагую ўзнагароду — югаслаўскі ордэн "За заслугі перад народам".**

**Цікава, пакуль паміж Югаславіяй і СССР былі памяркоўныя адносіны, ніхто К. Самахвала не трывожыў. Але як толькі гэтыя адносіны папсаваліся, адпаведныя органы запатрабавалі здаць узнагароду. А пасля зноў вярнулі...**

**"Смех дый годзе!" — з вышыні пражытых гадоў, з вышыні свае мудрасці кажа Канстанцін Аляксандравіч пра ўсю гэтую валтузню. Гэтыя словы маюць яшчэ і такі сэнс: "Мне б іхнія клопаты".**

**З кожным днём, з кожным годам Кастусь Самахвал адчувае, што ён для новых пакаленняў людзей становіцца ўсё больш чалавекам самім у сабе з сваімі трывогамі, з сваімі клопатамі. І тады з ягонай душы вырываецца адзінае, шматзначнае: "Эхе-хе!" О-хо-хо!" А што значыць, што азначае гэты выдых! Хай кожны расшыфруе яго сам. Зрабіць гэта, думаецца, не так ужо цяжка, не так ужо і складана. Ці ж не так!**

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

УШАНАВАННЕ

# У ГОНАР АЛЕНЫ АЛАДАВАЙ




Напрыканцы чэрвеня ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь адбылася знамянальная падзея — адкрыццё мемарыяльнай дошкі ў гонар былога дырэктара Дзяржаўнага мастацкага музея БССР, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Алены Аладавай. Ініцыятарамі акцыі выступілі Міністэрства культуры, Беларускі саюз мастакоў і Мінскі гарвыканком. Распараджэнне аб правядзенні работ падпісаў прэм'ер-міністр краіны.

Аўтары мемарыяльнай дошкі — скульптар, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Іван Міско і архітэктар Міхаіл Ткачук. Трэба адзначыць, што скульптар зрабіў сваю работу, як кажуць, на грамадскіх пачатках — у знак павагі і ўдзячнасці. Справа ў тым, што калісьці, яшчэ ў 1957 годзе, Алена Васільеўна прыняла тады зусім маладога мастака Івана Міско на працу ў музей, шмат дапамагала яму на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў.

На ўрачыстасці прысутнічаў міністр культуры Беларусі Аляксандр Сасноўскі, сын Алены Аладавай — вядомы архітэктар, прафесар В. Аладаў, іншыя работнікі культуры і дзеячы мастацтваў. Шмат намаганняў для адкрыцця мемарыяльнай дошкі прыклалі супрацоўнікі Нацыянальнага мастацкага музея на чале з новым дырэктарам Уладзімірам Пракапцовым.

Ушанаваць памяць Алены Аладавай прыехалі землякі. На адкрыцці дошкі прысутнічаў і выступіў са словамі ўдзячнасці да зямлячкі загадчык аддзела культуры Пружанскага райвыканкома Юрый Котаў. Алена Васільеўна нарадзілася ў 1907 годзе ў Пружанах у сям'і настаўніка. І хаця часу мінула шмат, пружанцы памятаюць яе і ганарацца ёю. Як, дарэчы, усе, з кім Алене Васільеўне даводзілася сустракацца і працаваць. Гэтая жанчына была найвыдатнейшым спецыялістам у музейнай і галерэйнай справе, шмат ведала, сябравала з многімі вядомымі мастакамі, здолела сабраць цудоўныя калекцыі каштоўных твораў мастацтва. Яна шмат працавала і ў Расіі, але вяршыняй яе прафесійнай дзейнасці ўсё ж такі стала аднаўленне разрабаваных у час Вялікай Айчыннай вайны фондаў галоўнага мастацкага музея Беларусі. Ёю, па сутнасці, быў створаны новы музей, які ў выніку ўвайшоў у пяцёрку найбуйнейшых мастацкіх музеяў Савецкага Саюза. І сёння Нацыянальны мастацкі музей Беларусі — сапраўдны гонар краіны. У гэтым велізарная заслуга Алены Аладавай. Адкрыццё мемарыяльнай дошкі — першы крок у справе ўшанавання памяці выдатнай беларускай дзяячкі. Наступным павінна стаць выданне ў 2000-м годзе кнігі аб жыцці і дзейнасці Алены Аладавай.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**



**НА ЗДЫМКАХ: у час адкрыцця мемарыяльнай дошкі ў гонар Алены АЛАДАВАЙ.**

З АРХІВАЎ

# ЯЗЭП ЛЁСІК — ПЕРАКЛАДЧЫК

"Гэтага слаўнага пісьменніка чакае яшчэ слаўнейшая будучыня", — такую ацэнку ў пачатку 20-х гадоў даў Максім Гарэцкі літаратурнай дзейнасці Язэпа Лёсіка (1883—1940). Будучыня Лёсіка — слыннага пісьменніка, публіцыста, мовазнаўца, гісторыка, перакладчыка — была, аднак, трагічнай: цэнзурныя рэпрэсіі, арышт у 1930 годзе, ссылка, вымушаныя звальненні з працы і звязаныя з імі пераезды з месца на месца, у 1938 годзе — зноў арышт і гібель у засценках НКУС. Словы Гарэцкага пачынаюць спраўджвацца толькі цяпер, калі пасля доўгіх гадоў забароны літаратурная, навуковая і публіцыстычная спадчына Лёсіка вяртаецца да чытача. Не звярталася пакуль асобная ўвага на яго перакладчыцкую дзейнасць. А шкада, бо пераклады — неад'емная частка літаратурнай спадчыны Лёсіка. Перакладаў ён няшмат, але і тое, што паспеў зрабіць на гэтай ніве, заслугоўвае пільнай увагі даследчыкаў і аматараў літаратуры.

Першыя свае пераклады Лёсік надрукаваў у 1918 годзе. На старонках газеты "Вольная Беларусь", якую ён рэдагаваў, з'явілася камедыя В. Дуніна-Марцінкевіча "Залёты", польскамоўныя тэксты якой Лёсік пераклаў на беларускую мову. Праз некалькі месяцаў на старонках "Вольнай Беларусі" быў надрукаваны Лёсікаў пераклад "Пінскай шляхты" Дуніна-Марцінкевіча з пінскай гаворкі на літаратурную беларускую мову. Выдатнае веданне беларускай мовы, добры літаратурны густ, тонкае пачуццё мастацкага слова зрабілі гэтыя пераклады хрэстаматыйнымі. У 1922 годзе на старонках альманаха "Адраджэнне" з'явілася апавяданне Яна Баршчэўскага "Ваўкалак" са славутага зборніка "Шляхціц Завальня", пераўвасобленае Лёсікам у беларускай мове.

А пачатак перакладчыцкай дзейнасці Лёсіка адносіцца да нашаніўскіх часоў. Сярод матэрыялаў рэдакцыі "Нашай нівы" захаваўся рукапіс перакладу верша ў прозе І. Тургенева "Верабей". Сакавітая беларуская мова, уменне Лёсіка глыбока пранікнуць ва ўсе адценні тургенеўскай лірыкі і выявіць іх у перакладзе робяць гэтую працу здабыткам айчыннага прыгожага пісьменства. Па нявысветленых прычынах рукапіс застаўся неапублікаваным. Магчыма, ён трапіў у рэдакцыю ў апошнія месяцы існавання газеты і надрукаваць яго не паспелі (у жніўні 1915 года выхад "Нашай нівы" спыніўся). Так і застаўся першы Лёсікаў пераклад ляжаць сярод рэдакцыйных папер, разам з якімі зберагаецца цяпер у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Дзеля таго, каб застаўся своеасаблівы каларыт Лёсікавай мовы, тэкст друкуецца з захаваннем арыгінальнага правапісу (адступленні ад яго рабіліся толькі ў выключных выпадках).

**Франц КОРЗУН,
супрацоўнік Беларускага
дзяржаўнага архіва-музея
літаратуры і мастацтва.**

# ВЕРАБЕЙ

Я вяртаўся з паляваньня ды ішоў сабе па сьцежцы сада. Сабака бег па-перадзі за міне.

Раптам ён зьменшыў свае крокі ды пачаў красьціся, мэрам зьнюхаўшы дзічыну. Я зірнуў паўздоўж сьцежкі ды ўгледзіў маладога вераб'я з жоўсьцю па вокала дзюба і з пухам па галоўцэ. Ён скінуўся з гнязда (вецер моцна хістаў бярэзіны) ды сядзеў сабе, ніварушачыся, безпаможна растапырыўшы скрыдлачкі.

Мой сабака паціхіньку падходзіў да яго, аж раптам, адарваўшыся з суседнага дзерэва, стары, з чорным волям, верабей камяням рынуўся пад самую яго мызу. Увесь ускалмачаны, зьмянёны ў постаці, з адчайным жалобным піскам ён скокнуў разоў колькі ў той бок, дзе стаяў сабака, выскаліўшы зубы.

Ён кінуўся ратаваць, ён засьціў сабою сваё дзіцянётка, а ўсё яго маленькае цела трымацела сопалаху, галасок адзічэў, асіп, ён млеў, ён ахвяроўваў сябе на сьмерць! Якім вялізорным страшыдлам мусіў здавацца яму сабака! Але-ж ня ў магчымасьць яму было сядзець на сваёй высокуй, нідаемнуй галіне. Сіла, мацнейшая за яго волю, сашпурнула яго адтуль.

Сабака супыніўся, папяўся назад... Мусі і ён згадзіўся з гэтаю сілаю.

Я хутчэй паклікаў смучанага сабаку ды пашоў сабе, цешачыся.

Але, я цешыўся з гэтае маленькае жаласьлівае птушкі, зь яе любоўнага учынку.

— "Любоў, — разважаў я, — перамагае сьмерць і нават страх сьмяртэльны. Тыкеля ёю, тыкеля любоўю трымаяцца і рухаяцца жысьць".

1998-мы — ГОД АДАМА МІЦКЕВІЧА

# ПА ДАРОЗЕ ДА РУСКАГА ЧЫТАЧА

Калі зазірнуць у гісторыю польска-рускіх літаратурных сувязяў XIX—XX стагоддзяў, то стане відавочным, што наш славуты суродзіч Адам Міцкевіч з'яўляецца адным з самых прызнаных чытачом былога СССР польскім пісьменнікам. Найболей папулярнымі класікамі польскай літаратуры з'яўляюцца ў нас Генрых Сянкевіч (выдадзена пасля 1917 года 100 кніг тыражом 4 812 тысяч экзempляраў на 29 мовах), Адам Міцкевіч (78 кніг тыражом 1 905 тысяч экземпляраў на 13 мовах).

Але ж уваходжанне творчасці Адама Міцкевіча ў кантэкст рускай культуры, рускай літаратуры пачалося задоўга да 1917 года. І калі вызначальны пласт зносін Адама Міцкевіча і Аляксандра Пушкіна ў значнай ступені вывучаны, даследаваны, то ўваходжанне яго творчасці ў рускую літаратуру XIX стагоддзя як быццам бы і прадмет, што знаходзіцца па-за ўвагай. На крайні выпадак — у нас, у Беларусі. Ды і ў Расіі — таксама.

А між іншым, фактаў для доследу міцкевічазнаўцаў там, у рускім XIX стагоддзі, дастаткова. Варта нагадаць хаця б пра некаторыя з іх. І што цікава, міцкевічаўскую прысутнасць у Расіі шырылі і множылі таксама ўраджэнцы Беларусі (праўда, воляю адукацыі і іншых уплываў зарыентаваныя на рускую культуру). "Грынеўская Ізабэла Аркадзьеўна... З яе перакладаў найболей вядомыя "Сябры" Дж. Равэты, "Мёртвы горад" Г. Д'Анунцыё, перакладала В. Гюго, А. Міцкевіча..." Ізабэла Грынеўская нарадзілася 3(15).5. 1864 года ў Гродзенскай губерні. Драматург, празаік, крытык, паэтэса, перакладчык, літаратуразнаўца. Валодала многімі еўрапейскімі мовамі. Што датычыць Міцкевіча, то перакладала з арыгінала.

У 1856 годзе ў Магілёве нарадзіўся Аляксей Дробыш-Драбышэўскі (памёр у 1920-м у Ніжнім Ноўгарадзе), журналіст, літаратурны крытык, перакладчык. Журналісцкая, літаратурна-крытычная работа нашага земляка звязана з многімі выданнямі. Як крытык Дробыш-Драбышэўскі быў досыць уважлівы да польскай літаратуры. У прыватнасці, у 1895 годзе ў часопісе "Русское богатство" змясціў артыкул "Адам Міцкевіч". Публікацыя цікавая тым, што аўтар спрабуе прадставіць А. Міцкевіча папярэднікам Ф. Дастаеўскага і Л. Талстога, падкрэсліваючы іх містычнае падабенства. Увогуле захапленне Дробыш-Драбышэўскага польскай літаратурай выявілася і ў іншых яго клопатах. У тым жа "Русском богатстве" наш суродзіч друкуе артыкул "Юлій Славацкі". Таксама перакладае драму З. Красіньскага "Ірадыён" (асобнае выданне — Санкт-Пецярбург, 1904). У. Караленка такую адзнаку выдаў гэтаму перакладу: "...перевод слишком дословен и не свободен от полонизмов".

Варта, відаць, нагадаць, што першая ў рускім літаратуразнаўстве манаграфія пра Міцкевіча — "Адам Міцкевіч" — пабачыла свет у Санкт-Пецярбургу ў 1858 годзе. Аўтар — Пётр Дуброўскі. Да 1835 года адносіцца яго артыкул "Новейшая поэзия у поляков" у часопісе "Московский наблюдатель".

Не выключана цікавасць літаратуразнаўчага характару да вялікай польскай літаратуры ўвогуле і да Міцкевіча, у прыватнасці, і з боку гісторыка літаратуры Пятра Когана (нарадзіўся ў Лідзе ў 1872 годзе). У 1903—1910 гадах пабачыў свет у Маскве яго трохтомнік "Нарысы па гісторыі заходнееўрапейскай літаратуры". Толькі на рускай мове гэтая манаграфія вытрымала 12 выданняў.

Выразны след у рускай літаратуры і культуры пакінуў паэт і перакладчык Уладзімір Бенядзіктаў (1807—1873). У 1863 годзе пабачылі свет перакладзеныя Бенядзіктавым паэмы Адама Міцкевіча "Конрад Валенрод" і "Гражына". Крытыка даволі прыхільна прыняла гэтыя работы. Дарэчы, у выдадзеных у 1902 годзе (СПб. — Масква) творах Міцкевіча пераклады многіх вершаў належаць Бенядзіктаву.

Узіраючыся ў XIX стагоддзе, шукаючы "рускі след" Міцкевіча, нельга абмінуць жыццё, творчасць паэта, перакладчыка, гісторыка, журналіста Мікалая Берга (1823—1884). На пачатку 1863 года ён едзе ў Польшчу, ужо ахопленую паўстаннем. Едзе як карэспандэнт газеты "Санкт-Петербургские ведомости". Ажаніўшыся з полькаю, Берг селіцца ў Варшаве. У 1864—1867 гадах па заданні расійскіх улад складае задуманую як аналогію іх дзеянням гісторыю паўстання 1863—1864 гадоў. Але, атрымаўшы доступ да сакрэтнай інфармацыі, Берг стварае сур'ёзнае даследаванне, у якім выяўляецца і спроба аналізу не толькі ходу, але і прычын паўстання. Што да перакладчыцкай дзейнасці, то ёю Берг заняўся яшчэ ў 1840-я гады. Менавіта ён упершыню прадставіў рускаму чытачу паэзію балгар, лужыцкіх сербаў, славакаў. Шмат што пераклаў Берг і з вершаў Адама Міцкевіча. Цалкам пераклаў і "Пана Тадэвуша" (у розныя гады — 1870, 1873, 1874 — друкаваўся ў "Отечественных записках").

Асобным выданнем (без цэнзарскіх купюр, з двума артыкуламі Берга пра Міцкевіча) "Пан Тадэвуш" у перакладзе на рускую мову пабачыў свет у Варшаве ў 1875 годзе.

Вось толькі некаторыя штрыхі да даследавання ўваходжання Адама Міцкевіча, яго паэзіі ў кантэкст рускай літаратуры, рускай культуры XIX стагоддзя. За кожнай з гэтых згадак — свая ўласная гісторыя.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

УСПАМІНАЙМА ПРА ІХ!

# НЕ ПАКІДАЙ НАС, ВЕРА...

Нядаўна, здаецца, зусім жа нядаўна званілі мне з часопіса "Беларусь": "У сакавіку юбілей у Веры Сямёнаўны Палтаран. Калі ласка, скажыце на нашых старонках прыхільнае слова..."

Як было адмовіцца? Як не сказаць? Столькі прайшоўшы побач...

І ўжо самі на чыстую старонку неадступна тут жа запрасіліся — першымі — радкі Жэні Янішчыц з паэтычнага прысвячэння Веры Палтаран:

**Цуд, а ці корань**
**з палескага краю**
**Вашай душой уваскрэс!**
**Не дачакаюся**
**дзіўнага маю,**
**Сніцца і мроіцца Бэз!**

...Але як магла іх напісаць рука, гэтыя радкі? Былі якраз тыя чорныя дні, калі так трагічна і незваротна адышла з жыцця сама Жэня Янішчыц.

Гэта былі ўжо і адлічаныя лёсам нядоўгія дні жыцця самой Веры.

**Божа, як ломіцца**
**ў вокны і ў сэрца**
**Сэрцам раскрыленый**
**Бэз!**

І я наступіла на ўласнае сэрца і прымусіла сябе адмовіцца ад безагляднах радкоў Жэнінага гімна. Вымушана была шукаць іншых слоў спадзявання на цуд, на неверагоднае, на Веру (ужо без веры...), а можа, а можа?..

Я паспела захапіць яшчэ той шчаслівы момант прасвятлення, калі з літасці міласэрнай сястры (а яна прыязджала ўжо тры разы на дні, каб утаймоўваць нечалавечыя пакуты) на нейкі час боль адступіўся, і мы, удваіх, — Вера, як заўсёды, гатовая імгненна рэагаваць на кожны друкаваны радок, на кожнае слова, Вера ў пасцелі, а я побач з яе ложкам у крэсле, дзе прачыталі (я чытала ёй, а яна не мінала ўвагай ні слоўца), а дзе проста небезуважна перагарталі — апошні нумар — толькі што з паштовай скрынкі — "Полымя", цешачыся поспехам чужым і — засмучаючыся гэтаксама чужым няпоспехам і ўласным наўдзелам...

І якое гэта было агульнае наша ўдзячнае дачыненне да святла высокага чужога духу!

* * *

— Заходзьце! Заходзьце! Сядайце, дзе лепей падабаецца!

...А гэта яшчэ з гадоў "Маладосці", дзе два дзесяцігоддзі клапатліва гадавала і песціла яна ў аддзеле крытыкі гонкую крытычную расаду, ствараючы ёй найспрыяльнейшую глебу і ўмовы для творчага росту.

Гэта з "міфаў", з часоў "залатога веку" ў рэдакцыі крытыкі выдавецтва "Мастацкая літаратура".

— Заходзьце! Заходзьце! Сядайце, дзе лепей падабаецца!

І заходзілі.

І сядалі, хто дзе паспеў займець месца (а не — дык і пастаяць лічылася за падарунак). Не зачыняліся дзверы!

Сюды ішлі акадэмікі.
Народныя.
Заслужаныя дзеячы.
Лаўрэаты.
Паэты.
Празаікі.
Крытыкі.
Дактары (і навук, і хвароб).
Мастакі.
Артысты...

А калі здараліся і звычайныя — без лаўровых вянкоў і зорак, — то і звычайным таксама даравалася і прыветнае добрае слова, і пырскі нястрымнай сінечы з вачэй.

Канкурэнцыю вытрымаць не было чаго і думаць, і спадзявацца.

З кім? Каму?

Рэдакцыі сумнай прозы? Колькі там было ў яе тых раманістаў-класікаў... Ці інфантыльнай дзіцячай рэдакцыі з яе аўтарамі, якія ўсё жыццё — да сівых валасоў — толькі і ведалі, што кармілі сваіх Маш кашамі (маннымі)...

Ці няхай сабе і паэзіі — з яе рамонкамі, косамі і вербалозамі?..

Мазгавы цэнтр літаратурных рэдакцый! Усё найноўшае, усё самае нервовае, усё няхай сабе і спрэчна-перадавое — усё лакалізавалася і прасвечвалася на вышэйшым узроўні сучаснага ведання тут. Сюды і аўтары — адпаведнага вымярэння — трымалі курс. Трымалі з годнасцю, з усведамленнем уласнай значнасці і ўласнай вагі... І, вядома ж, з прыемнасцю (можа, нават у першую чаргу) адчынялі яны прэстыжныя дзверы, ведаючы добра, што за дзвярыма гэтымі чакае іх сустрэча не толькі з розумам (яго хапала і ў іх саміх!), але яшчэ і з жаночымі чарамі... (А рэдакцыю крытыкі і літаратуразнаўства ў залаты век яе ўпрыгожвалі — трэба ўдакладніць — і сапраўды жанчыны!).

— Любоў не перахопіш! — дасціпна пажартаваў аднойчы вядомы паэт, мінаючы ўсе рэдакцыйныя дзверы і кіруючыся да дзвярэй запаветных.

Сама яна была нястомная як у фізічнай, так і ў духоўнай працы, і людзей гэтай схільнасці таксама адзначала заўсёды вялікай літарай — ці то ў жыцці, ці то на кніжным загоне. Звярніце толькі ўвагу на пералік (і на вагу!) "яе" людзей у кнізе "На вятрах часу" — Алесь Адамовіч, Іван Пташнікаў, Міхась Стральцоў, Аляксей Кулакоўскі, Янка Рамановіч... А якую тытанічную работу да апошняга дня адольвалі на сваім літаратурна-жыццёвым палетку Іван Мележ: "Ён адчуваў сябе як сейбіт сярод недасеянага поля: жахнуўшыся, што не дасее, не паспее дакончыць работу, ён сабраў усе свае сілы, мацней упяўся нагамі ў зямлю і пайшоў па полі, шырока сеючы зярняты-думкі высокай чысціні і праўды.

І ўпаў сярод поля з поўнай жменяй зярнят, з поўнай душой нявыгаваранага, нявыказанага".

У сваёй крытычнай дзейнасці Вера Палтаран была заўсёды патрабавальнай, неабвержнадоказнай і па-мужчынску лагічнай. Добразычлівасць і захопленасць яе нязменна былі раскевчаны жыццядзейным гумарам і разам з тым узважаны на вагах удумлівага сур'ёзнага клопату.

А клопат яе нязменна быў пра чалавека і пра яго лёс. Пра яго будучыню.

Так, з гэтай не заўсёды ўдзячнай ношкай у сэрцы і за плячыма і прайшла яна ў нялёгкай хадзе па сваім жыцці.

Упоравень з ёю, неадступна, з Верай, Любоўю і Надзеяй, ішла, гаварыла, цешылася і спявала песні яе апантаная Муза-паляшучка.

Дай Божа ёй доўгага ўдзячнага ўспаміну.

Не пакідай нас, Вера!

**Алена ВАСІЛЕВІЧ.**

*ВЫСТАВА "ЖЫВЫЯ КРЫНІЦЫ" — ЗАКЛЮЧНЫ ЭТАП ФЕСТЫВАЛЮ НАРОДНАГА МАСТАЦТВА "БЕЛАРУСЬ — МАЯ ПЕСНЯ"*





# ЧАЛАВЕКУ ЎЛАСЦІВА ТВАРЫЦЬ

Ці задумваліся вы калі-небудзь, чым займаецца звычайны чалавек увечары дзе-небудзь у глыбінцы, дзе табе ні бібліятэкі, ні тэатра? Ды і клуб зачынены ўжо шмат гадоў. На дварэ — цемра. У вёсцы ж — адзін ліхтар на ўсю вуліцу. Зразумела, калі дзеці малыя — у хаце светла. І радасць, і справа ёсць заўсёды. А калі яны выраслі, калі чалавек такі стомлены ад жыцця, якое часам дае мала, а забірае шмат. Можа, ён глядзіць тэлевізар, які часцей за ўсё прымае 1—2 праграмы? Слухае радыё? Што ён робіць, гэты просты чалавек? Што вы скажаце, калі даведаецеся: у наш час ён ці яна вышывае на саматканым ручніку дзіўныя кветкі, якіх і не бачылі ніколі ў жыцці. А калі ён бярэ метал і робіць з яго ружу? Чаму ж не? Чалавеку ўласціва тварыць.

Завітайце на выставу "Жывыя крыніцы", і вы здзівіцеся, наколькі тое, што ствараюць народныя майстры, робіць прыгажэйшым свет.

Спачатку пра арганізатараў выставы. Гэта Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Беларускі саюз майстроў народнай творчасці (створаны ў 1992 годзе, аб'ядноўвае больш за 300 чалавек). Апошні ўзначальвае мастацтвазнаўца, даследчык гісторыі і тэорыі беларускага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і народных промыслаў, аўтар шматлікіх кніг на гэтую тэматыку Яўген Сахута. Гэта энергічны і глыбока зацікаўлены сваёй справай чалавек упэўнены, што менавіта ў дэкаратыўна-прыкладным мастацтве ўвасобілася душа народа, ягоны вопыт і эстэтычны густ. Выстава "Жывыя крыніцы" — лепшы доказ таму.

Падобная па маштабу, колькасці экспанатаў і шырыні тэматыкі выстава апошні раз праводзілася на Беларусі каля 10 гадоў таму. Зразумела, шмат адбылося ў свеце за такі тэрмін. Нешта змянілася і ў мастацтве. Тым больш цікава пагядзець вырабы майстроў, дзе прадстаўлена каля 2 000 твораў звыш 600 аўтараў. Яўген Сахута патлумачыў журналістам, што раней, калі ладзіліся падобныя выставы, на іх з году ў год прадстаўлялі адных і тых жа вядомых майстроў. Сёлета ж адбор праходзіў так: лепшае, што знаходзілі ў вёсках, гарадах, мястэчках, спачатку аблаславілі камісіяй на чале з Яўгенам Сахутам на раённую, потым абласную і нарэшце на рэспубліканскую выставу. Яна стала спробай выцягнуць з запаснікаў багатай народнай культуры ўсё тое, што часам, акрамя аднавяскоўцаў, ніхто не ведае, але творы гэтыя вартыя ўвагі.

Глядзіш на вялікую залу — у вочы ў першую чаргу кідаюцца ткацкія вырабы — ручнікі, дываны, посцілкі. Нешта падобнае я бачыла ў хаце сваёй бабулі. Што ткала яна сама, што засталося ёй ад маці. Рэчы гэтыя саграваюць душу. Вышыўка на ручніках — цудоўная. Яна неадноўкавая ў розных частках Беларусі. Палескія дываны, ручнікі вылучаюцца яркімі вышыванымі букетамі.

Цікавыя вырабы навучэнцаў Дзіцячай мастацкай школы г. Маладзечна. "Чароўны куфэрак" з саломы Дзмітрыя Мароза, якому 14 год, проста заваражвае. Такая прыгожая рэч і такая працаёмкая работа.

Вы памятаеце, што такое лапці ці маслабойка? Прыходзьце на выставу, убачыце. Можа, у вас народзіцца нейкія настальгічныя пачуцці?

Калі ж вы хочаце пацешыць вока, знайдзіце на выставе драўляныя вырабы Л. Жураўлевіча з Салігорска — ягоны стол-пано, шахматы. На пано — драўляны загадкавы замак. Возера, на якім птушка (ці гэта птушка — бусел, ці птушка — мара). Фігуры шахмат — героі народных казак. Прычым, работа гэта найтанчэйшая. І характэрнасць, і міміка — у кожнай фігуры асабістая.

На жаль, чвэрць адабраных твораў не ўдалося ўмясціць у прасторныя залы Палаца мастацтва. Умовы, прадастаўленыя выставачнай залай, не задаволілі арганізатараў выставы. Па словах Яўгена Сахуты, для экспазіцыі не хапала перагародак, подыумаў, вітрын. Арганізатары не змаглі паказаць некаторыя экспанаты, таму што для дэманстрацыі каштоўных невялікіх вырабаў не было



ўмоў. Як заўсёды, справа ў недахопе грошай. Яны выдзелены. Але Міністэрства культуры не мела іх на сваіх рахунках падчас адкрыцця выставы. Таму ўсё рабілася ў доўг. Спонсараў не знайшлі.

Зразумела, што храніны недахоп грошай адбіўся на арганізацыі выставы. Так, пераможца конкурсу на лепшы сучасны беларускі ручнік узнагароджаны Гран-прэміяй (усяго прэмій 10) у памеры 2,5 мільёна рублёў (каля 45 долараў). Мяркуйце самі, як гэта "шмат".

Тым не менш выстава адбылася. Плануецца выдаць каталог, у які ўвойдуць і тыя працы, якім не пашчасціла трапіць у выставачную залу.

Звычайнаму ж гледачу не так важна ведаць пра арганізацыйныя перыпетыі. Яму важна атрымаць задавальненне ад убачанага. Аўтар артыкула яго атрымала.

**Алена СПАСЮК.**

**НА ЗДЫМКАХ: у зале выставы.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА

**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

**ЛЕТНЯЯ НОЧ**

**Сонца**
**кудысьці**
**да долу**
**скацілася,**
**зорак**
**чарга настае...**
**Вунь ужо першая,**
**глянь,**
**засвяцілася!**
**Вунь і сяброўка яе!**
**Вунь ужо**
**колькі іх**
**па-над абшарамі...**
**(Хіба ж падлічыш усе).**
**Летняя ночка**
**таемнымі чарамі**
**поіць зямлю**
**пакрысе...**
**Поіць...**
**Усім**
**адмярае**
**па-роўнаму:**
**дрэвам...**
**палеткам...**
**траве...**
**А над зямлёю**
**такая чароўная**
**летняя ночка**
**плыве...**

**У ЛІПЕНІ**

**Жыта сокамі зямнымі**
**наліваецца,**
**Ходзіць хвалямі:**
**ні даць,**
**ні ўзяць рака...**
**Васількі па ім блакітныя**
**хаваюцца...**
**А сарваць...**
**Ну як узнімецца рука,**
**Хоць і ведаю:**
**яны тут проста лішнія!**
**Ды прыгожыя,**
**вачэй не адарваць...**
**Так бывае**
**толькі ўлетку...**
**Толькі**
**ў ліпені...**
**І гудуць-працуюць пчолы**
**па-над ліпамі,**
**каб зімою**
**мёдам нас**
**пачаставаць...**

НАВІНЫ ФІЛАТЭЛІІ

# ВЫСТАВА Ў ГДАНЬСКУ




У канцы мая — пачатку чэрвеня ў Гданьску (Польшча) адбылася выстава-паказ беларускіх паштовых марак, арганізаваная рэспубліканскім аб'яднаннем (РА) "Белпошта", Генеральным консульствам Рэспублікі Беларусь у Гданьску са згоды і пры падтрымцы Акруговай дырэкцыі польскай пошты ў Гданьску. Экспазіцыя была разгорнута ў Белай зале гарадской ратушы (цяпер музей гісторыі горада). На адкрыцці выставы прысутнічалі міністр сувязі Польшчы М. Здраеўскі, дырэктар гданьскай паштовай акругі Л. Жэлеўскі, генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Гданьску А. Берабеня, дэлегацыя РА "Белпошта", работнікі гданьскай пошты, прадстаўнікі мясцовай улады, гданьскія і беларускія філатэлісты, шматлікія госці.

Усе прысутныя з цікавасцю агледзелі экспазіцыю, у якой былі паказаны ўсе знакі паштовай аплаты, выдадзеныя беларускай поштай з моманту ўтварэння Рэспублікі Беларусь. Экспазіцыя заняла 22 экраны. На іх можна было ўбачыць маркі, прысвечаныя гісторыі рэспублікі, вядомым асобам краіны, архітэктуры, мастацтву, жывапісу, флоры і фауне, розным юбілеям. Экспазіцыя РА "Белпошта" і выдавецкага цэнтра "Марка" была дапоўнена цікавымі матэрыяламі — старымі паштоўкамі з адлюстраваннямі беларусаў у нацыянальным адзенні і відамі гарадоў Беларусі канца XIX — пачатку XX стагоддзяў — з фондаў Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі.

Удзельнічалі ў гэтай выставе і беларускія філатэлісты. Былі паказаны фрагменты калекцыі Л. Коласава "Старыя пісьмы Беларусі", якія расказалі наведвальнікам вернісажа аб гісторыі развіцця пошты на Беларусі з XVIII стагоддзя. Іншыя калекцыі расказалі аб удзеле беларускага народа ў Вялікай Айчыннай вайне, вызваленні рэспублікі ад фашысцкіх захопнікаў у 1944 годзе. Былі прадстаўлены таксама маркі, выдадзеныя ў розных краінах свету, але якія адлюстравалі беларускую тэматыку.

Дырэкцыя пошты ў Гданьску прымеркавала да адкрыцця выставы выпуск паштовай карткі з эмблемамі польскай пошты і РА "Белпошта". У дзень адкрыцця выставы ў Ратушы працавала выязное паштовае аддзяленне сувязі. Тут філатэлісты і госці выставы маглі пагасіць карэспандэнцыю спецыяльным штэмпелем польскай пошты з тэкстам "Рэспубліка Беларусь на паштовых марках. Белпошта. Гданьск — 50", набыць наборы беларускіх марак, пагасіць філатэлістычныя сувеніры беларускім спецыяльным штэмпелем з надпісам: "Філатэлістычная выстава "Паштовыя маркі Беларусі. Беларусь — Гданьск".

Да выставы польскі бок выдаў спецыяльны буклет на дзвюх мовах, які прадставіў наведвальнікам экспазіцыю. "Белпошта" выпусціла спецыяльную паштоўку з відамі Мінска і Гданьска і адбіткам спецштэмпеля, створаную беларускімі і польскімі мастакамі.

Невялікая экспазіцыя беларускіх марак, арганізаваная "Белпоштай" пры дапамозе Беларускага саюза філатэлістаў, пазнаёміла шматлікіх наведвальнікаў музея — турыстаў з розных краін і гарадоў Польшчы, жыхароў горада (асабліва школьнікаў), філатэлістаў Гданьска і шэрагу іншых гарадоў з Рэспублікай Беларусь.

**Леў КОЛАСАЎ.**






POCZTA BIAŁORUSI W GDAŃSKU
Gdańsk




ДЛЯ ТЫХ, ХТО ЛЮБІЦЬ ПЕСНЮ

## ДЗВІНА — ДАЎГАВА

Музыка У. Мулявіна Словы В. Лукшы



Сінявокая, быццам красуня вясна,
Праз лясы, валатоўкі крутыя
Праплывае павольна, як пава, Дзвіна
Ад крыніц невычэрпных, ад сэрца Расії.

*Прыпеў:*

Дзвіна — Даўгава,
Даўгава — Дзвіна.
Адно ў нас сонца,
І песня адна.

Многа бачылі стромы твае на вяку:
Стругі ворагаў грозных, шаломы вандалаў.
Хто ўзнімаў на прыдзвінскія землі руку,
Назаўсёды ў глыбокіх вірах пахавала.

*Прыпеў:*

Дзвіна — Даўгава,
Даўгава — Дзвіна.
Адна ў нас свабода,
І песня адна.

Ты крылатыя звонкія песні з сабой
Нам прынесла з зялёных адгор'яў Валдая.
Сілай казачнай, дужасцю маладой
Перапоўніла шчырыя сэрцы да краю.

*Прыпеў:*

Дзвіна — Даўгава,
Даўгава — Дзвіна
Адно ў нас заўтра,
І песня адна.

Многа сцежак прайсці нам да светлай вясны,
Да сапраўднай і шчаснай вясны чалавека.
Лёс звязаў назаўсёды ў імкненні адным
Латышоў з беларусамі дружбай навекі.

*Прыпеў:*

Дзвіна — Даўгава,
Даўгава — Дзвіна.
Адно ў нас шчасце,
І песня адна.

# ЛАГОЙСК ЗАЎСЁДЫ БУДЗЕ СА ШЧЫТОМ І НІКОЛІ — НА ШЧЫЦЕ

Сваё 920-годдзе з дня заснавання, якое будзе ўрачыста адзначацца 4 ліпеня, горад Лагойск сустрэне са шчытом. Дзяржаўная геральдычная служба краіны зарэгістравала герб Лагойска — шчыт так званай варажскай формы.

У яго верхняй частцы — пяціканцовая зорка, "перанятая" з герба апошніх уладальнікаў Лагойска — князёў Тышкевічаў. Пяціканцовая зорка — астральны знак, сімвал вечнасці і бяспекі. Менавіта гэтыя якасці былі неабходныя Лагойску, які ўзнік як горад-крэпасць Полацкай зямлі ў 1078 годзе.

"Візітная картка" Лагойска не магла абысціся і без відарыса трох узгоркаў, у далінах якіх калісьці зараджаўся горад. Усе элементы герба выкананы ў залатым колеры і размешчаны на блакітным фоне, які ў геральдычнай навуцы сімвалізуе славу, гонар, шчырасць і вернасць.

# МЕЦЬ СВОЙ ГЕРБ

У адпаведнасці з рашэннем Гродзенскага аблвыканкома, не толькі гарады, але і іншыя населеныя пункты Прынёманскага краю будуць мець свае гербы. Работа па стварэнню і размяшчэнню гербавых знакаў павінна завяршыцца да 2004 года.

Для іх распрацоўкі пры гарадскіх і раённых выканкомах ствараюцца спецыяльныя камісіі, якія павінны працаваць у цесным кантакце з геральдычнай службай Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводстве. Пры распрацоўцы гербавай сімволікі рэкамендавана ўлічваць народныя традыцыі і гісторыка-культурную спадчыну населеных пунктаў.



Фота Віктара СТАВЕРА.

Анатоль ЗЭКАЎ

## ДЗЬМУХАЎЦОВАЕ ЛЕТА

У дзьмухаўцах красуе лета,
і, покуль спяць яшчэ вятры,
ад дзьмухаўцоў у травах светла —
і ў тым святле, як сонца, ты,
маё зялёнае каханне,
што быццам бы адтуль прыйшло,
дзе мы гулялі да змяркання
у росным лузе за сялом.
А луг і лашчыў нас, і гушкаў,
і дзьмухаўцы, як коўдру, слаў.
Злятала сарамлівасць птушкай —
і дзесь знікала ў пойме траў.

Згадалася мне тое лета —
на жаль, яго ўжо не вярнуць.
Ды на душы так росна-светла,
што нават боязна ўздыхнуць.

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 835 экз. Індэкс 63854. Зак. 1150.
Падпісана да друку 6. 07. 1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.